ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIV, № 201 New York January — Студзень 1974 Нью Ёрк Vol. XXIV, № 201

## АД НАЦЫЯНАЛЬНАГА НЯБЫТУ, ПРАЗ ВЫЯЎЛЕНЬНЕ, ДА ШМАТКУЛЬТУРНАСЬЦІ

Падчас леташняга „Каравану" ў Таронце (павілён Менск быў у залі БРГЦ) падыйшла да мяне жанчына і ў часе гутаркі выявілася, што яна радзілася ў Канадзе, але бацькі ейныя прыехалі з Бабруйска ў 1903-м годзе. Разам зь іншымі Беларусамі й Расейцамі, бацька яе быў заснавальнікам і будаўніком расейскай катэдры ў Мантрэалі. Бязумоўна, нам ведама й пра іншыя групы Беларусаў у Канадзе, што памагалі й будавалі для чужынцаў. Спытаеце: чаму Беларусы будавалі чужыя катэдры, цэрквы, закладалі арганізацыі? Адказ ясны: яны прыехалі з паняволенай краіны, не ведалі навет, хто яны ёсьць, бо акупант навет імя гэтай краіны забараняў ужываць.

У 1918-м годзе Беларусь вярнула сваю вольнасьць і незалежнасьць, але хутка агні свабоды пагасьлі ў Менску й Вільні, Смаленску й Полацку, Берасьці й Бранску. Згвалціўшы яшчэ раз і паняволіўшы іхную бацькаўшчыну, ворагі Беларусі зноў узяліся й за нашых эміграптаў на чужыне. У Канадзе Беларусы так і трывалі ў нацыянальным **нябыце,** памагаючы сваім ворагам на шкоду паняволенай бацькаўшчыны й самых сябе.

Беларусь ніколі не вярнула сабе незалежнасьці ад часу 1920-га году. Яна й сяньня ёсьць каленіяй Масквы, ейныя прыродныя й людзкія рэсурсы выкарыстоўваюцца ейнымі ворагамі. Апроч таго, Масква стараецца зьбянтэжыць Вольны Сьвет у дачыненьні да запраўдных асьпірацыяў беларускага народу. У Канадзе Масква мае шматлікіх памочнікаў. Гэтта ў школах дзеці вучацца расейскую вэрсыю гісторыі Ўсходняе Эўропы, інстытуцыі масавае камунікацыі а таксама некаторыя грамадзкія, навуковыя й палітычныя арганізмы часта й густа інтэрпрэтуюць шмат чаго згодна з маскоўскай лініяй... Справа вызваленьня Паняволеных Народаў проста-напрост не йснуе.

Найлепшым прыкладам, як Маскалі стараюцца дэзар'ентаваць сьвет пра Беларусь, ёсьць Вольга Корбут. Хоць увесь сьвет ведае пра гэтую надзвычайную Беларуску, з Горадні, Масква ніколі не рэклямавала яе нацыянальнасьці. Як правіла, Вольга заўсёды была й застаецца ў маскоўскім слоўніку **савецкай** грамадзянкай. Небясьпечна было-б называць спадарычню Корбут Беларускай, бо — чаго добрага — гэта магло-б павялічыць беларускую нацыянальную гордасьць, а вось яна, такая гордасьць, была-б надзвычайна шкодная „старэйшаму брату".

Цяпер хачу коратка спыніцца над часам, які я назваў пэрыядам **выяўленьня.** Згуртаваньне Беларусаў Канады паўстала ў Таронце 30-га лістапада 1948-га году. Кагадзе карэспандэнт мясцовае газэты спытаў мяне пра мэту паўстаньня ЗБК. Я адказаў яму адным словам: выжыцьцё. Могуць некаторыя з вас спытацца: ці патрэбна ў Канадзе арганізацыі закладаць, каб выжыць? У нашым выпадку — так. Эміграпты іншых народаў прыяжджалі ў вабдымкі сваіх арганізацыяў, цэркваў, мелі шмат дзе адчыненыя дзьверы. Мы-ж мусілі пачынаць ад нуля. Горш яшчэ: нас мясцовыя камуністычныя паўзуны абзывалі фашыстоўскімі калябарантамі, страйкбрэйкарамі і падобнымі. Між нас было вельмі мала інтэлектуалаў, бо нашыя ворагі вынішчылі бальшыню іх дома.

Каб выжыць у новай краіне, мы мусілі шмат папрацаваць. Навет наш нацыянальны назоў перашкаджаў нам. Гэта выплыла наверх падчас пярэпісаў насельніцтва Канады й падчас таго, як некаторыя з нас стараліся атрымаць грамадзянства. Шматлікія Беларусы адмаўляліся ад грамадзянства, калі некаторыя ўпартыя ўрадаўцы адмаўляліся запісваць іх запраўдную нацыянальнасьць.

Бязумоўна, пэрыяд нашага нацыянальнага выяўленьня ў Канадзе прынёс Беларусам шмат посьпехаў. Хаця пераважна канадыйскія грамадзяне й сяньня мала ведаюць пра Беларусь і беларускасьць, шмат дзе лёд нясьведамасьці, асабліва ў урадах, інфармацыйна-прэсавых і адукацыйных інстытуцыях, праломаны. Вялікая гэтта заслуга Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Ідэя **шматкультурнасьці** нарадзілася ня так даўно. Яе найчасьцей называюць „адзінствам у рознасьці". Практычных ужыткаў ідэі можа быць шмат. Узгадаваная на караньнях шматлікіх культураў, наша краіна, бязумоўна, скарыстае. Кажная нацыянальная група, у тым ліку й беларуская, дасьць нешта ўнікальнае ў вагульную мазаіку канадыйскай культуры. Згуртаваньне Беларусаў Канады падтрымоўвала й будзе падтрымоўваць самую ідэю й практычны ўжытак шматкультурнасьці. Я ўпэўнены, што беларускі элемэнт у Канадзе дасьць значны ўклад у матар'яльнае й духовае разьвіцьцё й рост Канады. Як часта гаворыцца, мы прайшлі вялікую дарогу: ад нябыту, праз нацыянальнае выяўленьне, да шматкультурнасьці. Я ўпэўнены, што нашае маладзейшае пакаленьне скарыстае з нашае практыкі й здабыткаў ды будзе далей прадаўжаць дзейнасьць, якой падмуркі мы заклалі.

Гэты кароткі нарыс быў-бы няпоўны бяз згадкі аднэй і надзвычайна важнай галіны нашае дзейнасьці. Гэта галіна абыймае нашае няспыннае змаганьне супраць сусьветнай камуністычнай канспірацыі ў усіх яе праявах у Канадзе. Калі паўставала Згуртаваньне Беларусаў Канады, аднэй зь яго мэтаў было змаганьне, каб прысьпешыць вызваленьне паняволенай Маскоўшчынай Беларусі. Зірнуўшы назад на дваццаць пяць гадоў існаваньня арганізацыі, трэба сьцьвердзіць, што, паміма сьціплых сілаў і матар'яльных сродкаў, усё-ж вельмі шмат было зроблена ў гэным кірунку. Ці гэта быў заступнік савецкага прэм'ера Палянскі на Экспо 67 у Мантрэалі, ці Касыгін пры таронцкім Саенс Цэнтры, ці прадстаўнікі БССР на Інтэрнацыянальнай Канфэрэнцыі Чырвонага Крыжа ў Роял Ёрк гатэлі ў 1952 г. у Таронце, ці Чырвонаармейскі Ансамбль на нядаўнай Канадыйскай Нацыянальнай Выстаўцы, мы заўсёды пратэставалі, выступалі ў першых шэрагах супраціву нашым ворагам і інфармавалі нашых прыяцеляў пра запраўдны твар маскоўскага „мядзьведзя". Пашыраючы праўду між Канадыйцаў, мы выкарыстоўвалі газэты, радыё й тэлебачаньне, дзе гэта было магчыма. Мы выкарыстоўвалі асьветную працу й розныя формы пратэсту.

Часта цяпер чуем пра гэтак званае „разьлюзьненае грамадзтва". Ведама, што шмат хваробаў нашага грамадзтва нарадзілася із звычайнай слабасьці людзкога характару, але нельга забываць, што шматлікія так сказаць „хваробы" плянуюцца ў Маскве й пашыраюцца плянава й сыстэматычна па цэлым сьвеце. Мы, бязумоўна, не павінны і ў будучыні ашчаджаць сілаў у змаганьні з камунізмам, мусім намагацца запабегчы, каб Канада ня сталася другой Беларусяй, Польшчай ці Мадзярышчынай. Аб нашых посьпехах у змаганьні з камуністычнай канспірацыяй у розных яе хвормах найлепш выказалася сама Масква, што часта нападала на беларускіх канадыйскіх лідэраў і нашыя арганізацыі.

Наапошку, пару асабістых заўваг. Я прыехаў у Канаду вясной 1947-га году, супольна зь іншымі закладаў Згуртаваньне Беларусаў Канады, і арганізацыя гэта сталася часткай майго жыцьця на працягу апошняга чвэрцьстагодзьдзя. Мне зрабілі вялікі гонар, даўшы нагоду апрацаваць гэты кароткі нарыс. Падчас падрыхтоўкі яго, даводзілася цяжка кантраляваць свае эмоцыі.

Сяньня трэба нам таксама прыгадаць тых суродзічаў, якія працавалі доўгія гады разам з намі, але ўжо адыйшлі ад нас. Між іншых, на ўвагу заслугоўвае сьветлай памяці Мячыслаў Рачыцкі, каторы на працягу гадоў зрабіў шмат для росту ЗБК. Я ад сябе хацеў-бы падзякаваць усім, што працавалі доўга й плённа для нашага супольнага дабра.

Сяньня мы ўжо добра ведаем, што натугі нашыя ня былі дарэмнымі, а прынесьлі добрыя плёны. Будзем спадзявацца, што нашае маладзейшае пакаленьне належна ацэніць нашыя заслугі й нашу працу і не асудзіць нас занадта за некаторыя недахопы.

**К. Акула**

## ПАМЁР ЯНКА ШУТОВІЧ

Да нас дайшла з Бацькаўшчыны сумная вестка, што 9 сьнежня 1973, памёр у Вільні шырака ведамы ў Заходняй Беларусі нацыянальны беларускі дзеяч Янка Шутовіч, пляменьнік ведамага беларускага ксяндза Віктара Шутовіча. Янка Шутовіч, студыюючы права на факультэце права й грамадзкіх навукаў Віленскага ўнівэрсытэту, належаў да Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, быў актыўным ягоным сябрам, некалькі разоў уваходзіў у склад ягонае ўправы, нейкі час быў рэдактарам ягонага друкаванага органу „Студэнцкая Думка". Быў сябрам палітычнае арганізацыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя й супрацоўнікам ейнага тыднёвага органу — газэты „Крыніца", якая, пасьля закрыцьця яе польскімі ўладамі, выходзіла да 1939 году пад загалоўкам „Беларуская Крыніца". Ад 1936 і да 1939 году быў рэдактарам-выдаўцом заснаванага ў 1935 годзе ў Вільні беларускага квартальнага літаратурнага часапісу „Калосьсе".

Пасьля акупацыі Заходняй Беларусі бальшавікамі ўвосень 1939 году й арышту дырэктара Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні Антона Луцкевіча, Янка Шутовіч выконваў функцыі дырэктара гэтага музэю. Працягваў ён выконваць гэтыя функцыі і ў часе нямецкай акупацыі да паўторнае акупацыі Беларусі бальшавікамі ў 1944 годзе, калі гэты музэй у 1945 годзе быў бальшавікамі зьліквідаваны, а ягоныя фонды выняткавай каштоўнасьці былі распарцаляваныя паміж рознымі лятувіскімі музэямі, архівамі й бібліятэкамі.

Увесь паваенны час жыў Янка Шутовіч у Вільні й час-часом зьяўляліся ягоныя артыкулы й зацемкі ў газэце „Літаратура і Мастацтва" й часапісе „Полымя". Апошнім часам аж да самае сьмерці працаваў ён у Лятувіскім музэі ў Вільні.

**Ст. Ст.**

## ДРУГІ СУСЬВЕТНЫ КАНГРЭС ВОЛЬНЫХ УКРАІНЦАЎ

Шэсьць год таму Украінцы ў Вольным Сьвеце задзіночыліся й правялі І-ы СКВУ, які быў для іх вялікім дасягненьнем у каардынаваньні выбраным тады Прэзыдыюмам палітычнай, грамадзкай, культурнай, асьветнай і рэлігійнай дзейнасьці.

1-4 лістапада летась Таронта было месцам 2-га СКВУ, які прайшоў зь вялікім посьпехам. У ім прыймалі ўдзел шматлікія дэлегаты й госьці, што прыбылі з 20-цёх краёў, улучна зь ґерархамі ўсіх украінскіх цэркваў розных веравызнаньняў. На Кангрэсе выступалі з прамовамі міністры фэдэральнага (даст. М. Лялёнд, Ст. Гайдаш) і правінцыяльнага ўраду (даст. прэм'ер Б. Дэйвіс, Дж. Ярэмка), як і бурмістар Таронта Д. Кромбі. На Кангрэсе выступаў з прамовай былы прэм'ер Канады даст. Джан Дыфэнбэйкэр, што цяпер ачольвае Міжнародную Камісію Абароны Правоў Чалавека й які трымаецца думкі, што Канада павінна й падчас „дэтэнты" бараніць паняволеныя Масквой народы.

Яшчэ задоўга перад СКВУ камуністыя розных масьцяў як зь Кіеву (дакладней із самой Масквы), гэтак з Канады намагаліся ўсякімі нападкамі сарваць Кангрэс. Падобныя ходы зрабіла й „дэлегацыя" з УССР перад бурмістрам Таронта Д. Кромбі з г. зв. Таварыства СССР — Канада, але ён ані чуць гэтым не пераняўся.

За найбольшае дасягненьне СКВУ трэба ўважаць задзіночаньне ўсіх украінскіх праваслаўных цэркваў у вадну Украінскую Праваслаўную Царкву, якіх ў іх было раней аж тры: УПЦ (ЗША), УГПЦ (Канада) і УАПЦ (Эўропа). Там настала задзіночаньне ў Раду Украінскіх Цэркваў, УПЦ, УКатЦ і УЭв-Бапт. грамадў. Дай Божа, каб і Беларусы здабыліся на нешта падобнае!

**Хв. Прылепскі**

## СЬВЯТА ГЭРОЯЎ У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

Сьвяткаваньне 53-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня ў Нью Бранcьвіку летась, як і папярэднімі гадамі, было ладжанае Задзіночаньнем Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі. Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 2 сьнежня. Напярэдадні сьвяткаваньня, таксама згодна традыцыі, былі ўдэкараваныя беларускімі сьцягамі магілы на Беларускім Магільніку ў Іст Бранcьвіку памерлых беларускіх вэтэранаў, сяброў Рады БНР і былых грамадзкіх працаўнікоў.

У БАПЦаркве Жыровіцкай Божай Маці а. Аляксандар адслужыў Паніхіду па Слуцкіх Гэроях у суправаджэньні царкоўнага хору пад кіраўніцтвам сп. Філярэта Родзькі.

А 1-ай гадзіне папаўдні адбыўся прынагодны Сход, прысьвечаны Слуцкім Гэроям і змагаром за волю Беларусі. Сход адчыніў старшыня ЗБАВ кап. Сяргей Гутырчык, тады а. Аляксандар прачытаў малітву. Сп. Васіль Стома, старшыня мясцовага Сэктару Рады БНР, прачытаў даклад на тэму дня, за што ад прысутных атрымаў бурныя воплескі.

Быў запрошаны на сьвяткаваньне й выступіць з прамовай прысутны ў гэты дзень у Нью Джэрзі старшыня Рады БНР Д-р В. Жук-Грышкевіч. У абшырнай прамове ён прыгадаў важнейшыя выпадкі Слуцкага Паўстаньня, зазначаючы, што ў запраўднасьці гэта было не паўстаньне, а вайна войска БНР супраць бальшавіцкай арміі, а таму больш адпаведна называць гэтую падзею Збройным Чынам войска БНР. Прамова старшыні Рады БНР была выслуханая з вялікай увагай.

Сход закончыўся беларускім нацыянальным гімнам.

**С. Пчала**

## ДЗЕЛЯ ПРЫДБАНЬНЯ НОВЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ

Рэдакцыя газэты „Беларус" атрымала ад свайго падпішчыка сп. Міколы Латушкіна з Чыкага ліст-прапанову, які, зь ягонай згодай, ніжэй друкуем:

**ДА РЭДАКЦЫІ ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС".**

**З гэтым лістом перасылаю чэк на суму $ 12.00. Зь іх $ 6.00 ад нованавербаванага падпішчыка на газэту (імя й прозьвішча, адрыс). Другіх $ 6.00 ахвярую ад сябе як падарунак на выпіску газэты „Беларус" на працягу году для майго знаёмага (імя й прозьвішча, адрыс).**

**Адначасна я хачу зрабіць прапанову паважанай Рэдакцыі, як, на маю думку, прыдбаць шырэйшае кола чытачоў газэты „Беларус" ды ўмацаваць фінансавую пазыцыю выдавецтва.**

**Я думаю, што амаль кажны зь цяперашніх падпішчыкаў „Беларуса" зьяўляецца актыўным прыхільнікам газэты й жадае ейнага пашырэньня сярод шырэйшых колаў беларускае эміграцыі.**

**Газэта „Беларус", занятушы пазыцыю служэньня не паасобным групам таго ці іншага кірунку й характару дзеяньня, а інтарэсам шырокай эміграцыі, павінна стацца трыбунай выказваньня жаданьняў і інтарэсаў усяе беларускае эміграцыі. Тады яна знаходзіць доступ да шырокага чытача, бо я ўжо не ад аднаго чуў сымпатычныя выказваньні ў карысьць газэты „Беларус".**

**Я прапаную, каб Рэдакцыя зьвярнулася з просьбай да ўсіх цяперашніх падпішчыкаў зрабіць падарунак-падпіску тэрмінам на адзін год свайму знаёмаму. Ад падарунку ніхто не адмовіцца, выдавецтва ня будзе ад гэтага ў стратах, ды за год часу той, хто будзе атрымліваць падарунак-газэту, да яе пачне прывыкаць і напэўна праз год стане сам ейным актыўным падпішчыкам.**

**На лёгкі пачын — згодная Рэдакцыя з маёй прапановай ці не — я запачаткоўваю падпіску-падарунак газэты майму знаёмаму (імя й прозьвішча, адрыс).**

**Застаюся із шчырай пашанай**
**Мікола Латушкін**
**Чыкага, 30 сьнежня 1973.**

Мы вельмі ўдзячныя сп. М. Латушкіну за шчырую зычлівасьць і прапанову, уважаем яе вельмі карыснай і мэтазгоднай ды з ахвотаю будзем яе ўжыцьцяўляць.

У сувязі з гэтым мы зьвяртаемся тут да ўсіх нашых падпішчыкаў з гарачай просьбай узяць прыклад із сп. М. Латушкіна ды зрабіць падпіску нашае газэты на адзін год, як падарунак свайму знаёмаму, які газэты яшчэ ня выпісвае. Дзеля гэтага просім прысылаць $ 6.00, падаць прозьвішча й адрыс свайго знаёмага ды зазначыць, ад якога нумару высылаць яму газэту. Тады мы адразу-ж пачнём высылаць на пададзены адрыс газэту. Адначасна з высылкай першага нумару паведамім яго адмысловым лістом, ад каго пэрсанальна гэты падарунак. У грашовых справаздачах, што друкуюцца на апошняй бачыне газэты пад загалоўкам „На Выдавецкі Фонд „Беларуса", атрыманая падпіска-падарунак будзе фігураваць пад прозьвішчам таго, хто прыслаў грошы, а прозьвішча таго, каму падпіска-падарунак зроблены, фігураваць ня будзе. Дык сьпяшайцеся скарыстаць з добрае нагоды зрабіць прыемны й карысны падарунак свайму знаёмаму ці знаёмым.

**Рэдакцыя газэты „Беларус"**

## МАЁР ПЁТР КЛІМУК З БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНЫ ТРЭЙЦІ БЕЛАРУСКІ КАСМАНАУТ

Ад 18 да 26 сьнежня, 1973, знаходзіўся ў палёце вакол зямлі савецкі касьмічны карабель „Саюз — 13", пілятаваны экіпажам у складзе каманьдзера карабля маёра Пятра Клімука Беларуса зь Берасьцейшчыны й бортінжынера масквіча Валентына Лебедзева. Васьмідзённы палёт, мэтай якога былі навуковыя дасьледваньні ў касьмічным прасторы, адбываўся нармальна й абодвы касманаўты шчасьліва вярнуліся на зямлю, прызямліўшыся на тэрыторыі СССР 200 клм. на паўдзённы захад ад гораду Караганды.

Беларус Пётр Клімук нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Камароўка Берасьцейскага раёну й вобласьці. Пасьля заканчэньня ў 1962 годзе Чарнігаўскага ваеннага авіяцыйнага вучылішча служыў у Ваенна-Паветраных Сілах СССР. З 1973 году ён слухач Ваенна-Паветранай Акадэміі імя Ю. Гагарына. Жонка беларускага касманаўта Ліля вучыцца ў І-м Маскоўскім мэдыцынскім інстытуце. У іх расьце сын Міхась пяці гадоў. Бацька касманаўта Ільля Клімук загінуў у часе Другой сусьветнай вайны, маці Марта жыве ў вёсцы Камароўка на Берасьцейшчыне.

Пётр Клімук — ужо трэйці беларускі касманаўт. Першым касманаўтам беларускага паходжаньня, што ўпяршыню ў гісторыі чалавецтва ўжыцьцявіў палёт у космас, быў Юры Гагарын, што нарадзіўся 9 сакавіка 1934 году ў усходняй часьці Беларусі, далучанай да РСФСР — у вёсцы Клушына Гжацкага раёну (з 1968 году Гжацк пераназваны ў Гагарын) Смаленскай вобласьці. Гагарын загінуў пры загадкавых абставінах у авіяцыйнай катастрофе ў часе трэніровачнага палёту.

Другім беларускім касманаўтам была Валентына Церашкова, першая ў сьвеце жанчына-касманаўтка, што ў 1963 годзе пілятавала касьмічны савецкі карабель „Усход — 6", у арбіце спадарожніка зямлі. Валентына Церашкова нарадзілася ў 1937 годзе ў вёсцы Масьленьнікава Тутаеўскага раёну Яраслаўскай вобласьці РСФСР, куды ейны бацька Уладзімер Церашкоў, ураджэнец і жыхар вёскі Вылаў Бялыніцкага раёну Магілеўскай вобласьці, перасяліўся ў 1913 годзе. Церашковы — найбольш пашыранае сярод жыхароў гэтае вёскі прозьвішча. Як згадвае паэта магіляўчанін Аляксей Пысін у сваім вершы 1964 году, прысьвечаным Валі Церашковай, „А ў Вылаве ўсе Церашковы, у кожным двары ці праз двор".

## НА ЎГОДКІ СВАЙГО НАСТАЯЦЕЛЯ Ў ЧЫКАГА

У нядзелю 25 лістапада летась у Парахвіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага былі адзначаныя калядныя запускі й адначасна 10-я ўгодкі сьвятарскай працы ў гэтай царкве ейнага настаяцеля пратаярэя а. Алега Мірановіча. У гэты дзень у перапоўненай царкве адбылася ўрачыстая Божая Служба, якую адправіў а. Алег і сказаў вельмі прыгожую й глыбака рэлігійную пропаведзь.

Адразу пасьля Божае Службы адбылося ў царкоўнай залі прыняцьцё для прыхаджан і гасьцей, у часе якога быў належна ўшанаваны а. Алег з нагоды свайго дзесяцігодзьдзя. Вельмі смачны абед падрыхтавала Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ў васобе старшае сястры Марыі Каленік і спадарыняў К. Пунтус, Е. Крэс, Ліды Швэрэнь, С. Гушчы, матушкі Мірановіч і Валатоўскай. Усім ім належыцца шчырая падзяка.

Пасьля таго, як а. Алег сказаў малітву й пабагаславіў сталы, адчыніў бяседу старшыня Царкоўнай Управы Васіль Пунтус. У сваёй прамове ён нарысаваў гісторыю Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага й прыгадаў, што якраз споўнілася дзесяць год душпастырскай працы ў гэтай царкве ейнага настаяцеля прат. а. Алега Мірановіча. Зьвяртаючыся да яго із словамі высокага прызнаньня й шчырае падзякі, сп. В. Пунтус паднёс яму ў канвэрце падарунак, а ўсе прысутныя дружна прапяялі „Сто год!". Тады ўзяў слова атаман казацкай станіцы Калабухава пры Беларускай Праваслаўнай Парахвіі Сьв. Юр'я Аляксей Сасноў і, прывітаўшы а. Алега ды пажадаўшы яму далейшай плённай працы на царкоўнай ніве, злажыў у канвэрце падарунак ад імя казацкай станіцы, а прысутныя на бяседзе Казакі прапялі яму „Многае лета!". Далей вітала нашага душпастыра й злажыла яму таксама падарунак ад імя Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці й Царкоўнай Управы старшая сястра Марыя Каленік, а прысутныя яшчэ раз прапяялі „Сто год!". Многія з парахвіян віталі а. Алега й складалі яму свае падарункі, як былы старшыня Царкоўнай Управы Даніла Швэрэнь, сп-ня Людміла Нягода, сп-ня Валатоўская й іншыя.

У вадказ на прывітальныя прамовы а. Алег шчыра ўсім падзякаваў, асабліва былым старшыням Царкоўнае Ўправы Макару Аблажэю, К. Новіку, Я. Панкевічу, Д. Швэрэню, Г. Калтаноўскаму, быламу сакратару Царкоўнае Ўправы Міколу Латушкіну, скарбніку Ф. Радзюку ды цяперашняму старшыні Васілю Пунтусу, скарбніку Анатолю Новіку й сакратару Пятру Нягоду, а таксама ўсім парахвіянам і гасьцём, для якіх было прапяяна „Сто год!". На заканчэньне прат. а. Алег Мірановіч запэўніў, што й далейшыя дзесяць год будзе служыць беларускаму народу як Беларус і беларускі пастыр.

**П. Нягода**
**Сакратар Царк. Управы**

## ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"!

## ПРЫВІТАНЬНЬНІ Й ПАЖАДАНЬНІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**Ніжэй зьмяшчаем вершы беларускіх паэтаў на Бацькаўшчыне, што трапілі на Захад. Іхных прозьвішчаў, із зразумелых прычынаў, не падаём. — Рэд.**

*НАРАДЗІЎСЯ Ў БЭТЛЕЕМЕ БОГ*

*Каляда ўрачыста крочыць сьвята,*
*Няўпрыкметкі праз белы сьнег і лёд;*
*Калядуе вецер каля хатаў,*
*Запыняецца каля варот.*

*Нарадзіўся Бог Спрадвечны ў ясьлях,*
*Сьвеціць зорка, зіхаціцьназьдзіў,*
*Яна болей ў небе не пагасьне,*
*Каб ніхто з дарогі ня зблудзіў.*

*Над убогім хлявушком ірдзіцца,*
*Ворагам яе не пагасіць,*
*Йдуць Цары Дзіцятку пакланіцца,*
*Што ў быдлячых яселках ляжыць.*

*І ня знаючы людзкое мовы,*
*Толькі веліч здольныя адчуць,*
*Паглядаюць з ласкаю каровы*
*І ягняткі радасна бляюць.*

*Пахаліла галаву Марыя,*
*Пастушкі спыніліся ў дзьвярох,*
*Пяюць ў небе ангелы сьвятыя:*
*Нарадзіўся ў ціхіх ясьлях Бог!*

*Сьпіць Дзіця ля Непарочнай Маці,*
*Божы Сын, пачатак новых дзён.*
*Пастушкі стаяць каля Дзіцяці,*
*Мудрацы яго вартуюць сон.*

*Блеск няземскі ля галоўкі зьзяе,*
*Рука Маці ля маленькіх ног.*
*Урачыста ноч плыве сьвятая,*
*Нарадзіўся ў Бэтлееме Бог!*

*УСІМ, ХТО КРАЮ, ХТО НАС НЕ ЗАБЫЎ*

*Сьнег навокал, на сэрцы сумна,*
*Зноў калядны наблізіўся час,*
*Толькі нашыя птушкі і думы*
*Далятаюць магчыма да Вас.*

*Лёс адсёк ад камля наша гольле,*
*На чужой прыжылося зямлі,*
*Ўсё-ж камель не забудзе ніколі*
*Тых, што з нашых карэньняў ўзрасьлі,*

*Якіх песьняй сваёй калыхалі,*
*Ў ціхіх хатах, дзе хлеб, як пірог,*
*Дзе бацьці, што ад працы прысталі,*
*Ды Спрадвечны у покуці Бог.*

*Багацей на стале і у хаце,*
*Толькі меней нас стала ў сям'і,*
*Шмат каго не далічацца маці,*
*Выціраючы вочы сваі.*

*Дзе ня ёсьць Вы, хто мову Айчыны*
*На дарогах жыцьця захавалі,*
*Ўсім мы дзьверы і сэрцы адчынім,*
*Калі-б час нам сустрэцца настаў!*

*Мы чакаем Вас, верым ў сустрэчу,*
*Ясназорай надзеяй жывём.*
*Мы вартуем агонь ў нашых печах,*
*Ў нашых сэрцах агонь сьцеражом.*

*А пакуль Вы ня з намі тут сяньня,*
*Мы ад хатаў, ад сэрцаў, ад ніў*
*Шлём праз далеч сваі прывітаньні*
*Ўсім, хто краю, хто нас не забыў!*

*З Новым Годам, із Сьвятам Калядным,*
*Каб ў здароўі, ў надзеі жылі:*
*Будзе сьвята сустрэчы і радасьць,*
*Будзе шчасьце на нашай зямлі!!!*

*З НОВЫМ ГОДАМ!*

*З Новым Годам, із Сьвятам, браты на чужыне,*
*Наш вятрамі далёка аднесены куст!*
*Ў гэты дзень за сьвяточным сталом із сваімі*
*Прыгадайце і Маці сваю — Беларусь!*

*У нас сьнег і мароз, сталі ночы даўгія,*
*Ды бушуе мяцеліца каля варот.*
*І мы шчасьця жадаем для Вас, дарагія,*
*Ў гэты дзень, ў гэты Нованароджаны Год!*

*Бо якія-б між намі ня склаліся далі,*
*Мы ў застольлі заўсёды п'ём чарку за Вас.*
*Доўга сьлед Ваш на сьцежках вятры замяталі,*
*Ўсё-ж замесьці у сэрцы няўладны і час.*

*Плачуць маці, сястрычкі дрыжаць, як асіны,*
*Ды вясною пытаюцца першых буслоў:*
*Ці ня згледзілі брата, ня ўбачылі сына*
*На нялёгкай і любай дарозе дамоў?*

*А жыцьцё уцякае, такое кароткае,*
*Сум зьвівае часамі нутро, як драты . . .*
*З Новым Годам, каханыя, з новым шчасьцем, далёкія,*
*Зь яснай, лепшаю доляй, з сустрэчай, Браты!*

## НАДЗЕЙНЫ СПОСАБ РУСЫФІКАЦЫІ

Як падаў украінскі штодзённік „Свабода" за 13 верасьня сёлета, у інтэрвю заступніка Прэзыдыюму Савецкай сацыялягічнай асацыяцыі й старшыні Сэкцыі дзеля вывучэньня сям'і праф. А. Г. Харчавога, што было зьмешчанае ў газэце „Голос Родины" за жнівень 1973, шмат увагі пра „мяшаныя шлюбы ў СССР". Як відаць зь інтэрвю, штуршком для яго былі пашыраныя на Захадзе закіды, што міжнацыянальныя мяшаныя шлюбы сьціраваныя ў СССР да асыміляцыі жыхарства. Праф. Харчавы намагаецца гэты закід адкінуць, заяўляючы, што „гэта, звычайна, няпраўда", бо ў СССР быццам „ніхто й ніколі мэтаю палітыкі ня ставіў фізычнага зьмешваньня народаў. Ніхто ня вызначаў нацыянальнага складу сем'яў, ніхто не забараняў і ня стымуляваў адных відаў шлюбаў із шкодаю для іншых".

Гэткае фармальнае сьцьверджаньне савецкага сацыялёга супярэчыць усяму таму, што ён сам у гэтым інтэрвю на тэму міжнацыянальных шлюбаў сказаў, кажучы пра тое, што „рост міжнацыянальных шлюбаў сьветчыць пра перамогу нашай ідэялёгіі, адлюстроўвае прагрэсыўныя тэндэнцыі ў грамадзтве: збліжэньня нацыянальных культураў, умацаваньня маральна-палітычнага адзінства грамадзтва, шырыню й размавітасьць лучнасьцяў і кантактаў між людзьмі розных нацыянальнасьцяў, рост павагі да культуры іншых народаў, замацаваньня раўнапраўя жанчыны . . . Да росту міжнацыянальных шлюбаў спрычыніліся зьмены ў грамадзтве, індустрыялізацыя, рост культуры, перамога нацыянальных і рэлігійных перагародак".

Відаць, гэтую сьцёртую савецкую фразэалёгію, якой, звычайна, засланяецца ў СССР рэчаіснасьць, трэба расшыфроўваць, каб пабачыць, што фактычна за ёй хаваецца й што із сабою нясуць міжнацыянальныя шлюбы народам СССР. Адказваючы на пытаньне карэспандэнта пра мову „міжнацыянальных сем'яў", савецкі вучоны падчыркнуў, што „становяцца найчасьцей двумоўнымі", а калі зьмешаная сям'я жыве ў іншанацыянальнай рэспубліцы — дык трымоўнымі". Найчасьцей-жа, — заявіў савецкі сацыялёг, — „у падобных выпадках агульнасямейнай мовай становіцца мова расейская".

У гэтай выснове, як бачым, хаваецца ўся існасьць міжнацыянальных шлюбаў, іхная небясьпека й матывы, якімі кіруецца савецкі рэжым, тарнуючы палітыку плянавага зьмешваньня жыхарства, як найбольш эфэктыўнага спосабу асыміляцыі й русыфікацыі. Навет закладаньне сем'яў, што ўва ўсіх краёх і нацыях сьвету ёсьць першай і асноўнай базай самазахаваньня й росту, у савецкай нявольніцкай імпэрыі выкарыстоўваецца дзеля нацыянальнага народазабойства.

## ЯК СТВАРАЮЦЬ У БССР "КАЛІЗЭІ"

*„Нашто трымацца так за памяць продкаў?!" —*
*Скрывіўся крытык, прачытаўшы вершы.*
*О, тонкі майстар кавэрзных папрокаў,*
*Схавай капусны храпак, што жуеш ты!*

*Ніл Гілевіч*

На мяжы Панямоньня й Палесься, амаль на палове старога шляху ад Слоніму да Пружанаў, ляжыць у вабкружэньні прывабнае Ружанскае пушчы ўтульны гарадок Ружаны. У ягонай ваколіцы цячэ на поўнач праз Ваўкавыскае ўзвышша да Нёману рака Зэльвянка, а на поўдзень да Ясельды рака Цемра. Таму, магчыма, яшчэ за часы Чорнае Русі й узьніклі Ружаны на волаку паміж гэтымі рэкамі. У летапісе яны ўпяршыню згадваюцца ў 1586-м годзе, як горад, але пад назовам — Ражана, што падобна Рагачову, паходзіць ад тэрміну — рог, бо знаходзяцца яны на рагу шляхоў. А перад тым, як сьветчыць тэстамант канцлера Вялікага Княства Літоўскага славутага Льва Сапегі, Ражаны зваліся проста Сідараўскім фальваркам. І відаць усё вакол спрыяла хуткаму росту гораду.

Сваю зацямку „За 20 год", зьмешчаную ў № 1005-м завяртанскае газэткі „Голас радзімы", А. Марцінкевіч пачынае запэўненьнем:

„За 20 пасьляваенных год старажытныя Ружаны непазнавальна зьмяніліся. Пасёлак вырас удвая", — і прыгадваючы далей тутэйшыя маслазавод, хлебапякарню, гароднiна — сушыльны завод, цагельню, 19 крамаў, чайную, сталоўку, а таксама два саўгасы — „Ружанскі" і „Сьветлы шлях", канчае даволі беззапэляцыйнай заявай:

„Два дзесяцігодзьдзі Савецкай улады далі ружанцам у многа разоў больш, чым папярэднія чатыры з паловай стагодзьдзі".

Няўжо? Паспрабуйце перагарнуць старонкі гісторыі, або проста ўважліва аглянуцца вакол, каб пераканацца ў зусім іншым, супрацьлеглым. У 1611-м годзе тут будуецца паперня, а ў 1791-м суконная й палатняная фабрыкі, на якіх працавала блізу 350 работнікаў, і праіснавалі яны да 1939-га году, вырабляючы сукно розных колераў. Апрача іх, былі вялікая гарбарня, цагельня й кафельны завод, або па тагачаснаму — плітніца, вытворчасьць якое славілася па ўсім Панямоньню. Таму не дарма, як сьцьвярджае З. Капыскі ў сваёй грунтоўнай кніжцы „Эканамічнае разьвіцьцё гарадоў Беларусі ў 16-17 стагодзьдзях" (Менск. 1966 г.), менскія купцы спрачаліся паміж сабой за права на гандаль у Ружанах ды асабліва ў часе тутэйшага Сярэдняпоснага кірмашу. І доказам колішняга дабрабыту зьяўляюцца таксама тыя архітэктурныя помнікі, што ў большай ці меншай ступені перахаваліся дагэтуль.

Цэнтральную плошчу Ружанаў упрыгожваюць сабой касьцёл і царква, што маюць вонкавае падабенства і гэта ня выпадкова, бо ня гледзячы на розьніцу сваіх веравызнаньняў стварылі іх беларускія дойліды. Траецкі кармэліцкі касьцёл пабудаваны ў першай палове 17-га стагодзьдзя, і калі пад'яжджаеш да Ружанаў, перадусім кідаецца ў вочы сьпічасты шацёр ягонае высокае званіцы, якая арганічна адпавядае суворым фасадам будынку і нагадвае бэрнадынскі касьцёл у Друі.

Крыжовыя скляпеньні касьцёлу расьпісаныя фрэскамі й арнамэнтам, а ягоны аўтар, у выглядзе барокавага порціку, зроблены з чорнага мармуру. І касьцёл нагэтулькі цэльны й адпаведны абранаму для яго месцу, што цалкам мае рацыю Ю. Якімовіч, калі ў сваім нарысе „Сустрэчы з адвечным", надрукаваным у „Літаратура і мастацтва" (22. 5. 70.), піша: „. . . здаецца, замяні яго іншай пабудовай ці пасунь крыху ў бок — усё раптоўна сказіцца, зьгіне ўся ідэя архітэкнурнай даміnанты ансамблю плошчы" — а далей дадае: — „Яшчэ і яшчэ любуемся высокім шпілем касьцёлу. Ён нібы лунае над горадам і, здаецца, кідае выклік будучым дойлідам".

Пятрапаўлаўская царква была пабудаваная ў 1675-м годзе, як вуніяцкая, на месцы ранейшае драўлянае, ад якое засталася толькі вельмі цікавая чаша, зробленая ў 1624-м годзе. Царква дарэшты вытрыманая ў барокавым стылю і, як Траецкі касьцёл, мае адну высокую званіцу. Аднак пажарам у 90-х гадох зьнішчаны ейныя каштоўныя фрэскі й старадаўныя абразы. Цудам ацалеў толькі абраз Богамаці, які асабліва ўшаноўвалі тутэйшыя праваслаўныя Беларусы.

Найбольшай аздобай Ружанаў зьяўляецца вядомы палац Сапегаў, што некалі мелі тут рэзыдэнцыю. Хоць і дайшоў ён да сучаснасьці ў руінах, а ўсё-ж перахаваў сваю мінулую прываблівасьць і дарма, што знаходзіцца крыху ў баку ад гораду, але разьмешчаны на ўзгорку відаць уім адусюль. Закладзены ў пачатку 18-га стагодзьдзя за часы панаваньня барока, палац перабудаваны у канцы яго архітэктарам Янам Самуэлям Бэкарам, набыўшы пры гэтым некаторыя рысы клясыцызму.

Бяз увагі на гэтае, галоўны корпус, над якім быў пабудаваны трэйці паверх і прыбудаваны два крылы, ня страціў гарманійнасьці ранейшых прапорцыяў. Калісьці былі ў ім зь вялікім густам аздобленыя залі й пакоі, а цяпер засталіся толькі сьцены, але ўсё роўна, як захапляецца ў сваёй „Беларускай архітэктуры" (Менск. 1956 г.) М. Кацар: „Архітэктура Ружанскага палацу спакідае вялікае ўражаньне. Магутны ўзьлёт калённага порціку галоўнага фасаду, высокая аркатура, што нясе трохгліфны карніз, ствараюць ураженьне прыўзьнятасьці і велічнасьці. Увесь ансамбль прыгожа ўкампанаваны ў маляўнічы пэйзаж Ружанаў".

Нарэшце ўважаю за патрэбнае прыгадаць яшчэ ўездную Парадную браму, што хутчэй нагадвае трыумфальную арку, зьяўляючыся самастойным дасканалым творам мастацтва. Заслугоўвае ўвагі ейная ніжняя руставая частка, але асабліва зьдзіўляе верхняя, аздобленая гірляндамі, выразанымі з моранага дубу.

І надзвычай паказальныя два здымкі, пададзеныя на 431-ае старонцы І-га тому Беларускае савецкае энцыкляпэдыі (Менск. 1969 г.). Пад адным зь іх напіс — Нарвская трыумфальная арка ў Ленінградзе, пад другім — Арка Ружанскага палаца. Наўмысьля адшукайце гэтыя здымкі і зірніце на іх, каб увачавідкі пераканацца, што першая знаходзіцца ўва ўзорным парадку, бо яна ў Ленінградзе, а другая набліжаецца да зьнікненьня, бо яна на Беларусі. І характэрна, між іншым, што праз асобныя аркі магутнае

# БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА Ў ДЭТРОЙЦЕ

**(Уражаньні з падарожжа)**

Пра Дэтройт ведаў з прыватных лістоў і з прэсы, пераважна з газэты „Беларус". Аднак, як паглядзеў сваімі вачыма, весткі гэтыя былі, сказаў-бы, скупыя. Беларусы ў Дэтройце — людзі скромныя, але калі ходзіць аб агульна-эміграцыйную інфармацыю, дык скромнічаць няма чаго — Беларусы хочуць ведаць, што робіцца ў іхніх асяродках на эміграцыі. Тымбольш, што Беларусы ў Дэтройце маюць што паказаць і маюць чым пахваліцца. Дасягненьні іхныя гэта прыклад іншым беларускім асяродкам у Паўночнай Амэрыцы, а асабліва па-за Амэрыкай.

Цэнтрам беларускае калёніі Дэтройту й ваколіцаў зьяўляецца праваслаўная царква, якую зьведаў у першы дзень майго прыезду ў Дэтройт. Вонкава гэты будынак ня кідаецца ў вочы выглядам праваслаўнае царквы — вежа з войстрым гатыцкім заканчэньнем — відаць, што арыгінальна гэта была пратэстанцкая царква. З надворку царква абабітая алюміневай бляхай, а ў сярэдзіне—дзеравам. Самая рама царквы зробленая ня зь дзерава, а із сталі, падобна як будуюцца мадэрныя хвабрыкі. Пад царквою знаходзіцца раскошная заля зь месцам, прыблізна, на сотню асобаў. Сьцены залі абабітыя дзеревам. Тут-жа поруч з заляю — раскошная і вельмі добра абсталяваная кухня.

У царкве прыгожы дзеравяны іканастас — яшчэ ня скончаны. Іконы ўжо ёсьць амаль усе, бо толькі адсутнічаюць круглыя іконкі на райскіх варотах. Дарожка ад уваходу да райскіх варотаў, салія (падвышэньне перад іканастасам), і ў нутры аўтара — усё вылажанае дываном бурачковага колеру, што надае асаблівае прыгажосьці й багацьця царквы ў нутры.

Каля царквы знаходзіцца клябанія. Гэта двухпавярховы дом, у якім жыве цяпер Уладыка Мікалай, што нядаўна пераехаў сюды з Канады. Першы паверх, апрача кухні й сталовае, вылажаны дыванамі. У доме ёсьць тры спальні, у ваднэй зь якіх Яго Праасьвяшчэнства зрабіў сабе канцылярыю, другую займае сам, а трэйцяя пустая. Дэтройцкія Беларусы кажуць, што гэта для прыежджых суродзічаў, каб ня трэба было затрымоўвацца ў гатэлях ці ў матэлях. Пры клябаніі вялікі гараж і ў ім стаіць аўта Уладыкі Мікалая. Трэба прызнаць, што дагэтуль яшчэ ніводзін зь беларускіх Япіскапаў ня меў сабе так выгаднага памешканьня як Япіскап Мікалай.

Самая царква й клябанія знаходзяцца ў зацішным прадмесьці Дэтройту — у Іст Дэтройт. Для наведвальніка з далёкае Аўстраліі тут адчуваецца лагоднасьць і супакой. Здаецца, што тут запраўды ёсьць частка нашае далёкае бацькаўшчыны-Беларусі.

У нядзелю пабываў на Службе, якую адслужыў Уладыка Мікалай. У царкве было даволі людна. Ізь сьпеву хору відаць, што ўсе старыя харыстыя, аднак адчуваецца адсутнасьць дэрыгента. Веру, што Беларусы Дэтройту неўзабаве перамогуць гэты недахоп. Незразумелым, аднак, астаецца, чаму хоць настаяцелем прыходу Япіскап, а завецца толькі царква, а не сабор. Хто павінен пра гэта парупіцца?

З гутаркі з Суродзічамі даведаўся, што запраўднае рэлігійнае жыцьцё тут пачалося прыблізна чатыры гады таму назад. Бяручы на ўвагу дасягненьні за так кароткі час, можна быць перакананым, што за наступныя 4-5 гады ўжо не царква, а сабор у Дэтройце будзе наймацнейшай адзінкай БАПЦ на эміграцыі.

Дык шчасьці Вам Божа, дарагія Суродзічы ў Дэтройце!

**А. Бакуновіч**

# ПРЫЕМНАЯ НАВІНКА

Не пазімоваму прыемны, бязь сьнегу, вечар сыботы 22 сьнежня 1973 году. Пляц Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі, паступова запаўняецца самаходамі, зь якіх па адным і групамі высядаюць жыхары Саўт Рывэру й ваколіцаў. Адны зь іх прыехалі трохі раней, каб мець магчымасьць прысутнічаць на Вячэрні ў царкве; іншыя —пазьней трохі, каб на час пасьпець у залю Цэнтру на абвешчаныя на гэты дзень даклады

Разасланыя загадзя паведамленьні-запросіны, а таксама зацемка, надрукаваная ў англамоўнай тыднёвай газэце Саўт Рывэру "Spoksman" паведамлялі, што ў гэты вечар адбудуцца ў залі два даклады: Алеся Вожыка, навейшага эмігранта зь Беларусі, „Жыцьцё ў сучаснай Беларусі" і д-ра Ст. Станкевіча „35-я ўгодкі крывавых сталінскіх пагромаў на Беларусі". Нічога дзіўнага таму, што амаль на вызначаны час (пачатак вызначаўся на 7:00 гадзіну вечара, але — як і часта ў нас Беларусаў бывае — пачалося ўсё з паўгадзінным спазьненьнем) вялікая заля Цэнтру была амаль запоўненая слухачамі.

Вечар адчыніў старшыня Управы Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру Барыс Шчорс кароценькім уступным словам і перадаў голас сп. Алесю Вожыку.

Даклад сп. А. Вожыка, хоць і кароткі, але быў даволі цікавы, бо ад часу разьвітаньня прысутных на Вечары з Бацькаўшчынай прайшло бязмала 30 год і ня кажны зь іх мае магчымасьць даведацца пра тыя зьмены, што адбыліся на ягонай радзіме за гэты час. Дакладчык-жа, які, можна сказаць, толькі ўчора вырваўся з паняволенай Беларусі, расказаў слухачом шмат новага і цікавага. Тое, чаго ён не сказаў падчас дакладу, было дапоўненае і ўдакладненае ім падчас адказаў на пытаньні прысутных у канцы праграмы Вечару.

Надзвычай зьмястоўны і цікавы быў даклад галоўнага рэдактара газэты „Беларус" д-ра Ст. Станкевіча. Дакладчык, на аснове даступных яму крыніцаў і праведзеных ім дасьледаў, расказаў слухачом, як у 30-х гадох, асабліва ў часе славутай яжоўшчыны ў 1937-38 г.г. крывавы сталінскі рэжым вынішчаў у Беларусі лепшую частку ейнага народу, не шкадуючы навет і сваіх-жа „паплечнікаў" — камуністых. Прысутныя старэйшага веку, якія былі сьветкамі ды навет ахвярамі гэтых пагромаў, жывучы на бацькаўшчыне, даведаліся аб новых фактах, пра якія не маглі ведаць з тагачаснай савецкай прэсы. Слухачы-ж малодшага веку даведаліся пра факты, пра якія яны, магчыма, і ня ведалі нічога.

Прыемнаю неспадзеўкаю для прысутных было выступленьне на Вечары Хору Беларускіх Вэтэранаў пад кіраўніцтвам сп. Ю. Рымка. Хор у знак ушанаваньня памяці ахвяраў сталінскага тэрору прапяяў некалькі патрыятычных гімнаў і маршаў (аб выступленьні Хору Вэтэранаў не паведамлялася ні ў запросінах, ні ў газэце "Spoksman").

Вечар закончыўся сьціплым пачастункам для прысутных, які таксама праходзіў на высокім патрыятычным узроўні. У прамовах, перапляtаных песьнямі, тостамі й сьпевамі „Сто год!", шчыра выказваліся пажаданьні, каб сярод дзьвюх групаў беларускае эміграцыі, калісьці пасвараных і няпрыхільна да сябе настаўленых, запанавала поўная згода, узаемная пашана, прыязьнь і супрацоўніцтва.

Салісткі хору „Каліна" Л. Махнюк і Р. Касьцюк, а так-жа й іншыя сьпявачкі й сьпявакі цешылі прысутных беларускімі патрыятычнымі й народнымі песьнямі. Настрой быў, хоць і ўзвышаны, але не афіцыйны, а шчыра сяброўскі й глыбока патрыятычны.

Падсумоўваючы ўражаньні ад Вечару, хочацца пажадаць, каб Культурна-Мастацкі Аддзел пры Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ладзіў часьцей падобныя вечары.

***Янка Золак***

# „ПАЛЯКІ" НА БЕЛАРУСІ

Сёлета Акадэмія навукаў БССР у Менску (Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа) выдала цікавую кнігу ў 2-х частках „Польские говоры в СССР". Гэта зборная праца многіх аўтараў у трох мовах: беларускай, расейскай і ўкраінскай. Бальшыня аўтараў Беларусы. Зборнік напісаны ў выніку чатырохгадовага (1967-1969) дасьледваньня польскае гаворкі на мясцох, дзе перапіс жыхарства 1959 году паказаў астравы „Палякаў" у БССР ды сумежных землях этнічнай Беларусі, што сяньня ўваходзяць у склад Лятувіскай ССР (Віленшчына, Трокаўшчына), Латыскай ССР( Латгалія, Ілукшта), РСФСР (Смаленшчына, Браншчына), Украінскай ССР (Чарнігаўшчына, Палесьсе), Эстонскай ССР (Ноўгарадзкі павет), Польскай Народнай Рэспублкі (Падляшша, Беласточчына, Сувальшчына, Аўгустоўшчына). Савецкі перапіс 1959 году выявіў у СССР 1,370.622 „Палякаў", а перапіс 1970 году – 1,167.000. З гэтага ў БССР налічвалася ў 1959 годзе, — 538.881, а ў 1970 годзе — 520.000. У Лятувіскай ССР адпаведна прыблізна тая самая колькасьць у вабодвых перапісах — 230.000. У іншых савецкіх рэспубліках паводля апошняга перапісу: у Латыскай ССР — 50.000, у ЭССР — 2.000, у РСФСР – 120.000, у УССР – 300.000,, у Казахстане — 52.000. У іншых савецкіх азіяцкіх рэспубліках — каля 15.000.

Тут неабходна моцна падчыркнуць важны факт, што на аснове Сталінскае „ўмовы" з Польскай Народнай Рэспублікай дадзенае было свабоднае права „Палякам", што апыніліся ў межах СССР, перасяліцца ў ПНР, а не Палякам у межах ПНР — у СССР. Тады радавітыя Палякі (дадайма, што моцна пацярпелі ад Сталінскай палітыкі) ды не Палякі, адно былыя польскія грамадзяне, тысячнымі хвалямі падаліся ў Польшчу, мяркуючы, што сталінскае ярмо там будзе слабейшае. „Умова" мела важнасьць на працягу 5-ёх год. Цяжка сабе ўявіць, каб народжаны запраўдны Паляк не захацеў скарыстаць з гэтага права перасяліцца ў сваю бацькаўшчыну, хай сабе й падсавецкую! Аднак больш за міліён з гакам „Палякаў" не захацела скарыстаць з гэтага права ды й надалей застаецца ў СССР.

У чым-жа справа? Польская замежная прапаганда хоча бачыць у гэтых „невозвращенцах" усё-ж такі Палякаў запраўдных, што ўпорыста прадаўжаюць быццам бараніць „польскі" бастыён на ўсходзе... Аднак факты кажуць што іншае.

І вось вучоныя лінгвістыя ўназванай працы поўнасьцяй аспрэчваюць іхнае польскае паходжаньне. Усе яны ня толькі ў выніку сваіх дасьледваньняў на мясцох, але й паклікаючыся на даваенных і паваенных польскіх аўтараў сьцьвярджаюць, што г. зв. „Палякі" ў СССР — гэта Беларусы каталікі.

Пасьля наезду ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя нашых земляў маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам у саюзе з Багданам Хмяльніцкім замацавалася на Беларусі ў мэтах абароны перад Расеяй тэндэнцыя цеснага саюзу з Польшчай зь пераняцьцем польскай мовы, як урадавай улучна. Гэта наступіла ў 1696 г. у часе бескаралеўя й выбараў супольнага караля для Польшчы й Літвы (Беларусі). Тады Пётр Першы намагаўся стацца і ўладаром Польшчы й Літвы, а антымаскоўская канфэдэрацыя ўвяла пастанову ня толькі аб адхіленьні маскоўскага цара, але й аб цесным змацаваньні Польшчы й Літвы навет супольнай урадавай польскай мовай у гэтых задзіночаных дзяржавах.

Адзін з аўтараў згаданай напачатку зборнай працы „Польские говоры в СССР" В. Варэніч, разважаючы ў гэтым кірунку, паклікаецца на працу Г. Турскай у польскай мове („Пра мову Яна Ходзькі"), якая даводзіць, што мова Ходзькі — гэта мова верхніх слаёў жыхарства Меншчыны й Віцебшчыны першай палавіны XIX стг., дзе асноўны ўплыў на мову г. зв. „Палякаў" мела беларуская мова. Ейны ўплыў на мову польскіх аўтараў беларускага паходжаньня ў XIX стг. сьцьвярджаюць таксама гэткія польскія моваведы, як А. Брукнэр, К. Ніч, Т. Лер-Сплавінскі, А. Абрэмбская-Яблонская й іншыя. Найбольш цэнная ў гэтым пытаньні манаграфія Г. Турскай „Пра ўзьнікненьне польскіх моўных прастораў на Віленшчыне" (Вільня, 1939). Яна, выкарыстаўшы матарыялы іншых аўтараў, сьцьвярджае, што ўплыў беларускай мовы на польскую гаворку на Беларусі асабліва зацяжыў у другой палавіне XIX стг. (пасьля зямельнай рэформы), калі сялянства было вызваленае ад прыгону, а паўстаньне Кастуся Каліноўскага паднесла клічы змаганьня за родную мову й сваю дзяржаву.

Сьцьвярджаюць гэтую зьяву на беларускай тэрыторыі і сучасныя савецкія моваведы. В. Варэніч у сваёй працы падае многія крыніцы й літаратуру гэтых вучоных, што падмацоўваюць ягоныя высновы пра беларускія ўплывы ў польскіх гаворках на Беларусі. Іншыя аўтары зборнай працы ‚Польские говоры в СССР", як В. Чэкман і Ю. Паршута, даюць шмат характэрных беларускіх моўных асаблівасьцяў у польскіх гаворках на Беларусі.

Яшчэ іншая аўтарка згадванай зборнай працы К. Гюмулянц дасьледвала ткацкія назовы й вопраткі ды абутку у польскіх гаворках Віленшчыны. Яна ўстанавіла, што ўсе гэтыя назовы тыпова беларускага паходжаньня ды ня маюць навет сьлядоў паходжаньня польскага.

Існуюць яшчэ многія іншыя довады таго, што г. зв. „Палякі" ў СССР — гэта Беларусы каталікі, што бачаць сваю „польскасьць" адно ў каталіцкім веравызнаньні, але этнічна ня маюць ніякіх сувязяў з карэннымі Палякамі. Тут відавочная гістарычная зьява паміж двумя народамі — Беларусамі й Палякамі, якія задзіночваліся адно дзеля самаабароны перад расейшчынай, а ня дзеля этнічнага зьліцьця ў вадзіны польскі арганізм.

Чырвоная Масква прадаўжае намаганьні чорнае сотні царскае Расеі, уважаючы Беларусаў каталікоў за „карэнных" Палякаў ды, у мэтах аслабленьня беларускага нацыянальнага патэнцыялу, і надалей штучна стварае „польскае пытаньне" ў СССР. Яна гэтак-жа штучна ў межах сяньняшняе Лятувіскае ССР (а пры Сталіне і ў БССР) палянізуе беларускіх каталікоў, накідаючы ім польскае школьніцтва, культуру, самаўрад і польскую царкву.

**В. Пануцэвіч**

## ЗІМА

Сьнегу белая гушча  
Ў жорнах ветру заенчыла.  
Пасівелая пушча  
Перад бурай укленчыла.

Маразішча балюча  
Коле дзідамі колкімі;  
Пранізаў сьнег сыпучы  
Ледзянымі іголкамі.

Праз завеі, віхуры  
Сонца землю ня ўбачыла.  
Абняліся пад скурай  
Доля воўка з сабачаю.

**Міхась Кавыль**

**1974**

---

Ружанскае аркады вы пабачыце воддаль тутэйшыя чароўныя Траецкі касьцёл і Пятрапаўлаўскую царкву зусім слушна спалучаныя такім чынам з палацам у вадну цяпер мінорную гаму з далёкае ўрачыстае сымфоніі.

Аднак вы істотна памылецеся, калі зробіце выснаў, што палацавы ансамбль у Ружанах карыстаецца вялікай увагай з боку рэспубліканскага таварыства па ахове помнікаў гісторыі й культуры, бо наступныя вытрымкі з пэрыядычнага друку таму цалком супярэчаць. Гэтак Г. Сакалоў у „Чырвонай зьмене" (9. 9. 69.), у артыкуле „Ахове помнікаў — сілу законаў", шчыра заўважыў: „Большасьць помнікаў найвялікшай мастацкай каштоўнасьці саюзнага, а то навет эўрапейскага значаньня на грані поўнага зьнішчэньня як, напрыклад, палац Сапегаў у Ружанах", а В. Нікіцін у „Літаратура і мастацтва" (9. 12. 69.), у артыкуле „Летапіс векапомнага", да гэтага дадае: ‚З Косаўскага замку і палацу ў Ружанах памаленьку расьцягваюць цэглу".

І як прачула зазначае аб руінах палацу Ю. Якімовіч у сваім кагадзе прыгаданым нарысе: „Вусьцішна было бачыць гэтае згасаньне былой велічы, якая і памірае ўражваючы..." Дарэчы, нам не стае мужнасьці абвінавачваць у разбурэньні палацу вылучна ружанцаў, бо хіба вінаватыя яны ў тым, што калі 200 год таму назад іхныя продкі пабудавалі з свае цэглы велічны палац, дык цяпер яе ў іх відавочна бракуе навет для рамонту печаў у сваіх хатах, хоць і займелі яны нейкую саўгасную жалюгодную цагельню.

І ўсё-ж найбольш нас зьдзівіла характарыстыка Ю. Цьвяткова, які ў артыкуле з хоць і запазычаным, але паэтычным загалоўкам „Памяць каменя і памяць слова" („Беларусь", № 9 за 1967 г.), называе палац Сапегаў у Ружанах... „беларускім Калізэям". Ці не зьяўляецца гэткае гіпэрбалічнае параўнаньне ў шмат якіх разуменьнях даволі коўзкім?

Яшчэ Байран сказаў: „Калі абваліцца Калізэй, абваліцца й Рым, а з Рымам абваліцца й увесь сьвет". Калізэй для яго зьяўляўся сымбалем велічнасьці магутнага Рыму, падзеньне якога, як вядома, і парадзіла змрочныя гады Сярэднявечча. А можа Ю. Цьвяткоў жадае гэткім параўнаньнем апраўдаць старое ператварэньне ў БССР архітэктурных скарбаў у руіны? Бо, бачыце, Рымскі Калізэй і ў руінах, але застаўся сьвятыняй для ўсяго чалавецтва? І хочацца ўсё-ж думаць, што гэткая плыткая паралельнасьць ня станецца індулігэнцыяй для ўсіх тамтэйшых сучасных сьвядомых вытваральнікаў крушняў з выдатных архітэктурных помнікаў Беларусі.

**Юрка Віцьбіч**

# НЯМЕЦКІМ ДЗЕЦЯМ БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ

Ад колькіх ужо гадоў беларуская народная казка ў Нямеччыне зрабілася вельмі папулярнай, ёю стаў любавацца масавы чытач. Акадэмічнае, з навуковымі камэнтарамі, выданьне 1966 году 122 казак у нямецкім перакладзе Ганса-Ёахіма Грыма мела ўжо пяць выданьняў, агульным тыражом 50 000 экзэмпляраў.

Шматтыражным выданьнем надрукаваны й зборнік беларускіх казак для дзяцей: Die Räubernachtigall. Belorussische Märchen. Berlin, Verlag Kultur und Fortschritt, 272 S. Першае яго выданьне зьявілася ў 1969 годзе. Вялікага фармату кніга дае 59 беларускіх казак у перакладзе Лізэлёты Рэманэ. У кнізе больш ста ілюстрацыяў Гайдрун Гэгевальд, каля 30 зь якіх каляровыя.

Калі пераклад казак у выданьні акадэмічным зроблены з арыгінальных беларускіх тэкстаў, дык у выданьні для дзяцей казкі ўзятыя з расейскіх перакладаў. У расейскім-жа выданьні ў казках шмат пераробак, пропускаў, дапісак з савецкім палітычна - прапагандавым, антырэлігійным ды маскоўска-вялікадзяржаўным накіраваньнем.

Прыкладам, першая казка, ведамая з запісу XIX ст. К. Сяржпутоўскага, пра чарадзейнага музыку ды чэрцяў, у расейскім перакладзе моцна здэфармаваная. Арыгінальны зьмест гэтае высокапаэтычнае ды глыбака філязафічнае казкі беларускага народу кранае спрадвечную праблему людзкасьці — змаганьне ліха з дабром. Зь вялікім майстэрствам у казцы перададзеная духовая сіла музыкі ды мастацтва наагул, увасобленае чарадзейнаю ігрою геніяльнага народнага музыкі-скрыпача. Казка гэтая была надрукаваная ілюстраваным выданьнем на эміграцыі ў 1948 г. ў Госьляры, Нямеччына.

Калі згодна із спрадвечным народным сьветаглядам, у арыгінальным тэксьце гэтае казкі, падобна як ува ўсіх народаў сьвету, зло ўвасабляе сіла пекла, дык у савецкай пераробцы казкі ўсё зло паходзіць ад „паноў". Гэтак казцы нададзены абмежаны палітычна - сацыяльны зьмест, які звужае ідэйна-маральную сілу яе да аднае толькі эпохі ды аднае гістарычнае фармацыі. Гэтак спад маральна бічуючае сілы казкі беларускага народу дасужыя партыйныя цэнзары выгарадзілі сучасных „паноў" беларускага народу, ягоную маскоўскую каляніяльную бюракратыю.

Беларускіх народных казак пра паноў ды розных іншых прыгнятальнікаў народу, як ведама, хапае, і дзеля гэтага няма ніякае практычнае патрэбы лік іх павялічаць штучна пераробкаю гэткіх мастацкіх шэдэўраў вуснае творчасьці, як казка пра чарадзейнага музыку. Хвальшаваных у падобны спосаб казак у зборніку шмат. Памешчаныя ў кнізе й казкі расейскага паходжаньня, у якіх выхваляюцца цары. Прыклад гэтага — казкі пра цара Пётру, таго якраз цара, што ў часе войнаў з Швэдамі рабаваў ды агнём нішчыў вялікія прасторы Беларусі, цара, які загадаў ґрабіць ды спаліць дашчэнту з усімі цэрквамі гэткія багатыя тады месты, як Магілеў ды Віцебск.

Вялікая шкада, што нямецкае выдавецтва паверыла ў сумленнасьць савецкіх выданьняў ды гэтак нямецкім дзецям дало не сапраўдныя казкі беларускага народу, але пакалечаныя ды палітычна хвальшаваныя іхныя падробкі, з вульгарнай „сацыялізацыяй", мастацкім абязьвечаньнем ды навязанай ім маскоўскай вялікадзяржаўнай ідэялёгіяй.

**А. Б.**

### ФОНД ПАДРУЧНІКАЎ

Засноўнікі Фонду Беларускіх Падручнікаў пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, ЗША, дзякуюць пададзеным ніжэй ахвярадаўцам за складзеныя на Фонд ахвяры: Д-р Ул. Набагез — $ 100.00; Мікола Нікан — $ 50.00; Мікола Грэбэнь — $ 10.00 .**Разам: $ 160.00. Разам з папярэднімі: $ 1,164.08.**

# ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У ТАРОНЬЦЕ

18 лістапада 1973 году беларуская грамадзкасьць Таронта разам з прадстаўнікамі, што прыбылі з розных іншых антарыйскіх беларускіх асяродкаў, адзначыла Дзень Беларускага Героя.

Згодна прапановы старшыні Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Канадзе др. Б. Рагулі, падтрыманае ўсім Камітэтам, урачыстае паседжаньне ладзіла гэтым разам Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне ў Канадзе ды прыняло ўдзел і запрошанае Згуртаваньне Беларусаў Канады. Згодна тэй-жа прапановы налета лістападавую ўрачыстасьць будзе ладзіць Згуртаваньне Беларусаў Канады, а гасьцём будзе Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне.

Пасьля сьв. літургіяў ды паніхідаў за ўсіх тых, што аддалі жыцьцё за незалежнасьць і волю Беларускага Народу, у беларускіх цэрквах сьв. Ефрасіньні Полацкае й сьв. Кірылы Тураўскага ўсе сабраліся ў парахвіяльнай залі царквы сьв. Ефрасіньні Полацкае на ўрачыстае паседжаньне.

Паседжаньне адчыніў і вёў старшыня БНА сп. Язэп Пітушка.

Пасьля адчыненьня й малітвы, прасьпяванае м. Вялікай і спадарынямі Наполавай і Беразоўскай, меў слова на тэму дня сп. Р. Беразоўскі. Прамоўца коратка насьвятліў важнейшыя падзеі нашага вызвольнага змаганьня ды слушна падчыркнуў, што факт абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. змусіў Маскву, якая йзноў захапіла Беларусь, „Северо-Западную область" абвесьціць Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай (БССР) ды што, дзякуючы Акту 25-га Сакавіка, няхай сабе толькі pro forma, Беларусь сяньня сябра Задзіночаных Нацыяў.

Далей прамоўца спыніўся і на трагэдыі й гераізьме беларускага народу ў вапошнюю часта братабойчую вайну, дый закончыў сучаснасьцяй тут на эміграцыі. Мы і тут, як казаў ён, залажыўшы свае арганізацыі, будуючы свае асяродкі, цэрквы, вядзём далей справу палеглых герояў, за гэта і кляйміць нас Масква „зраднікамі беларускага народу".

Мы ня зраднікі, мы не ўцяклі, як хаця-б тыя, што, прыкрыўшыся „канонамі", у самы цяжкі час кінулі ня толькі свой народ, а і сваю-ж царкву ды пайшлі да чужых.

Дый ці сама чырвоная Масква не зраджвае свайго-ж камунізму? Душачы паняволеныя народы за зялезнай заслонай, Масква ўбівала людзям у галовы, што межы гэтыя супроць варожага капіталістычнага акружэньня, а як толькі настане камунізм, усе межы на сьвеце будуць зьнішчаныя. І ўсё-ж ніводнае мяжы з варожымі капіталістымі ніколі так не ўмацоўвала, як цяпер яна ўмацоўвае ды стараецца затрымаць мяжу зь ідэйна-родным ёй, бо-ж таксама камуністычным, Кітаем.

Хутчэй дысанансам да гэтае прамовы гучэлі думкі, выказаныя наступным прамоўцам, а. Паўлам Вялікім. А. Вялікі сярод іншых сваіх пэсымістычных выказваньняў бядаваў па тых, што, здабыўшы асьвету да чужых „прысталі", як калісь выразіўся адзін наш паэта. Быццам гэткая мякіна калі-колечы мела які ўплыў на жыцьцё й долю якога-колечы народу. Мякіна мякінаю, яе заўсёды нясе, куды вецер вее.

Урачыстасьць дапоўніла малая мастацкая самадзейнасьць. На пачатку жалобны марш „Сьпі пад курганам герояў", прапяяны мяшаным хорам пад кіраўніцтвам а. Вялікага, ды падтрыманы ўсёй заляй, харавая дэклямацыя й песьня „Люблю наш край" у выкананьні вучняў беларускае суботняе школы ды яшчэ дзьве песьні хору: „Слуцкія ткачыхі" ды „Дні надходзяць" і на заканчэньне агульна прапяяны нацыянальны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Нагоду, што была сабраўшыся большая колькасьць людзей з розных асяродкаў, скарыстала др. Р. Жук-Грышкевіч, сябра Канадзкае Кансультатыўнае Рады ў справах шматкультурнасьці.

Яна растлумачыла, на чым палягае апошнім часам уведзеная канадзкім урадам палітыка шматкультурнасьці Канады ў рамках двухмоўнасьці. У Канадзе афіцыйныя дзьве мовы: ангельская й француская, але ўсе Канадыйцы і іншага этнічнага паходжаньня ды іхныя культуры раўнапраўныя. Усе Канадыйцы незалежна, скуль яны ці іхныя продкі прыехалі, заахвочваюцца далей культываваць свае мовы, свае звычаі, культуру, бо гэтым самым яны ўносяць уклад у вадну супольную скарбніцу — шматкультурную, але адну канадзкую культуру.

Дый заахвочваюцца ня толькі на словах, але й матар'яльнай падтрымкай, прыкладам нам, Беларусам, прызнана ўрадам дапамога (grant) у суме 6 тысячаў даляраў на выданьне падручніка беларускае мовы, які ўжо складаецца ды неўзабаве будзе здадзены ў друк.

**В. П.**

# СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ У МЭЛЬБУРНЕ

Сьвяткаваньне 53-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня адбылося 2-га сьнежня, 1973, у прыгожа ўдэкараванай залі Беларускага Дому ў Мэльбурне. Урачыстасьць адчыніў старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі сп. М. С. кароткай, але зьмястоўнай прамовай, у канцы якой папрасіў ушанаваць паўстаньнем і хвілінаю цішыні некалькі тыдняў таму адыйшоўшую ў вечнасьць сьв. пам. Лідыю Нікан, што асабліва напачатку нашай грамадзкай працы ў Аўстраліі прыймала вельмі актыўны ўдзел у нашым нацыянальным жыцьці.

Рэфэрат пра Слуцкае Паўстаньне прачытаў у беларускай мове мгр. А. Калодка, а ў ангельскай — асабліва прыгожа прачытала вучаніца нядзельнай беларускай школы Аля Корбут. У сувязі з тым, што частка ўдзельнікаў нашых урачыстасьцяў недастаткова або й зусім не разумее беларускае мовы (мяшаныя сужэнствы, а часткава й моладзь), рэфэраты ў ангельскай мове зьяўляюцца неабходнай патрэбай.

У мастацкай праграме вельмі ўдалымі былі выступленьні беларускага мяшанага хору пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча. Доўгімі воплескамі прысутныя дзякавалі дырыгенту й харыстам за высокае мастацкае выкананьне песьняў, сярод якіх асабліва прыгожымі былі „Ой выйду я, выйду" і раманс „Толькі з табой" (выканаўцы Надзя Груша, Ганна Корбут і Пётр Мікуліч).

Наагул трэба дзівіцца з ахвярнасьці і кіраўніка хору П. Мікуліча, і ўсіх харыстых, што, не зважаючы на сваю заработную працу й вялікую раськінутасьць нашай мэтраполіі, усё-ж знаходзяць час на працу ў хоры.

На вялікую ўвагу заслугоўваюць выступленьні з мастацкай самадзейнасьцяй вучняў беларускай нядзельнай школы, а гэта дзякуючы працы й турботам настаўнікаў, асабліва-ж сп-ні Эўлялі Яцкевіч. Вось і гэтым разам група вучняў і вучаніцаў школы (Аля й Юрык Корбуты, Міша й Ганя Грушы, Віця Хрэстоўскі й іншыя) пацешылі нас прыгожымі дэклямацыямі беларускіх вершаў.

Як-бы дапаўненьнем абодвых рэфэратаў была прыгожая патрыятычная прамова сп-ні Эўлялі Яцкевіч і злажэньне вязанкі кветак на сымбалічнай магіле беларускага змагара й жаўнера. Падзякаваўшы прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні, старшыня Беларускага Цэнтральнагага Камітэту на заканчэньне ўрачыстасьці папрасіў хвілінаю цішыні ўшанаваць памяць усіх тых, хто цярпеў або загінуў, каб „жыла Бацькаўшчына".

Сьвяткаваньне закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

**К. А.**

### ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У МЭЛЬБУРНЕ

У сыботу 17 лістапада летась у Мэльбурне (Аўстралія) у вялікай залі Лятувіскага Дому адбылася маніфэстацыя прадстаўнікоў Паняволеных Народаў. У ёй прынялі ўдзел Беларусы, Баўгары, Чэхі, Славакі, Эстонцы, Вугорцы, Латышы, Лятувісы, Палякі, Расейцы й Украінцы. Галоўнымі прамоўцамі былі: аўстралійскія сэнатары й ведамыя прыяцелі й абароньнікі Паняволеных Народаў Джордж Ганнан і Франк Мэк Манус, а так-жа д-р Анрэй, сп. Болюк і праф. Морван.

Падчас маніфэстацыі прадстаўнік польскага экзыльнага ўраду ўдэкараваў абодвых аўстралійскіх сэнатараў польскім ордэнам „Полёнія Рэстытута" за іхную працу ў вабароне правоў Паняволеных Народаў, у тым ліку й Палякаў. Была аднагалосна прынятая рэзалюцыя, у якой патрабавалася ўвядзеньне ў жыцьцё Дэклярацыі аб людзкіх правох, дэмакратычнай свабодзе й незалежнасьці народаў, паняволеных чырвонай Масквой, шляхам свабодных выбараў пад наглядам Задзіночаных Нацыяў.

**К. А.**

# ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" Ў 1973 Г.

Выдавецкі Фонд газэты „Беларус" складаецца з падпіскі й ахвяраў беларускага грамадзтва. Паступленьні ў гэты фонд ад Беларусаў паасобных штатаў ЗША і іншых краёў Вольнага Сьвету ў 1973 годзе паказвае наступная табліца:

**ЗША**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Нью Ёрк | $ 941.00 |
| 2. | Нью Джэрзі | 1,242.00 |
| 3. | Іліной | 1,004.00 |
| 4. | Огаё | 578.00 |
| 5. | Мічыган | 176.00 |
| 6. | Каліфорнія | 69.00 |
| 7 | Іншыя штаты ЗША | 545.00 |
| | **Разам:** | **$ 4,555.00** |
| 8. | **Канада** | **897.24** |
| 9. | **Аўстралія** | |
| | Сыднэй | 431.05 |
| | Мэльбурн | 251.45 |
| | Заходняя Аўстралія | 131.80 |
| | Адэляйда | 68.45 |
| | **Разам** | **$ 882.05** |
| 10. | **Ангельшчына** | |
| | Лёндан | 168.12 |
| | Манчэстар | 171.18 |
| | Брадфард | 58.31 |
| | Бірмінгам | 71.40 |
| | **Разам:** | **$ 469.01** |
| 11. | **Францыя** | **394.54** |
| 12. | **Нямеччына** | **57.40** |
| | **Усяго разам:** | **$ 7,255.24** |

Гадавая падпіска на газэту ў вышыні $ 6.00, устаноўленая яшчэ ў 1963 годзе, абавязвала і ў леташнім годзе, не зважаючы на тое, што ў міжчасе вартасьць даляра моцна абнізілася, а цэны адпаведна падняліся. Гэткую-ж падпіску мы пакідаем і на сёлетні 1974 год, хоць падпіска гэтая моцна **дэфіцытная.** Робім гэта таму, каб даць магчымасьць выпісваць газэту й тым, што больш плаціць за яе ня могуць або ня хочуць. Лепш гэткая, хай сабе й дэфіцытная, падпіска, чымся высылаць газэту задарма. Таму мы, пачынаючы з гэтага нумару, некаторым тым, што не аплацілі падпіскі за мінулы год, спынілі высылку газэты, а іншым спынім у найбліжэйшым часе

Бальшыня нашых падпішчыкаў добра разумее дэфіцытнасьць падпіскі ў суме $ 6.00 і таму яны самі паднялі сваю падпіску да $ 10.00 на год. Кажны можа аб гэтым перакanaцца, глянуўшы на нашыя месячныя грашовыя справаздачы, друкаваныя на апошняй бачыне газэты пад загалоўкам „На Выдавецкі Фонд „Беларуса", дзе сума $ 10.00 фігуруе часьцей. як падпіска, чымся сума $ 6.00. Грошы звыш 10.00. прысланыя на „Беларуса", уважаюцца за ахвяру.

У сувязі зь невялікай колькасьцяй нацыянальна сьведамых Беларусаў на эміграцыі. а яшчэ меншай колькасьцяй, што цікавяцца сваім нацыянальным жыцьцём, толькі падпіска, навет у вышыні $ 10.00. можа пакрыць адно нязначную частку друкарскіх, паштовых і адміністрацыйна-тэхнічных выдаткаў Рэдакцыі (усе працаўнікі Рэдакцыі й Адміністрацыі працуюць задарма). Але ўзноў-жа, гэтыя ахвяры, нажаль, не растуць прапарцыянальна да росту дарагоўлі ў ЗША, а тым самым і да бязупыннага росту выдаткаў на газэту. Гэтак у міулым 1974 годзе аж да жніўня месяца ўлучна прыбыткі на газэту не пакрывалі выдаткаў, і Рэдакцыя стаяла перад пагрозай вялікага дэфіцыту ў канцы году, што ўзноў-жа ставіла пад загрозу й існаваньне самой газэты.

Каб усьцерагчыся гэтага, Рэдакцыя сваячасова пачала біць на трывогу й рабіць розныя захады. Між іншымі мерапрыёмствамі, яна зьвярнулася ў вадмысловых закліках да грамдзтва з просьбаю матарыяльнае дапамогі. І нашае грамадзтва, дацэньваючы важнасьць роднага друкаванага слова, гэтую дапамогу дало. Асабліва нашыя Суродзічы ў Францыі й Аўстраліі прыйшлі з выдатнай дапамогай газеце. На працягу трох месяцаў (верасьня, кастрычніка й лістапада) у касу Рэдакцыі ўплыло $ 3,720.93, што становіць больш палавіну ейнага прыбытку за ўвесь леташні год. Гэта дало нам магчымасьць закончыць мінулы год бяз дэфіцыту.

Дарагавізна ў Амэрыцы шыбка расьце й далей. Трэба лічыцца з тым, што ў сёлетнім годзе яна можа прынесьці для нашае газэты яшчэ большыя фінансавыя цяжкасьці. У сувязі з гэтым мы горача апэлюем да ўсіх нашых прыяцеляў і дабрадзеяў павялічыць у сёлетнім годзе свае ахвяры на газэту. Кажнага нашага падпішчыка мы вельмі просім прыдбаць для газэты новых падпішчыкаў і ахвярадаўцаў.

У заакіянскія краі — Аўстралію, Ангельшчыну й іншыя газэта высыланая звычайнай поштай, прыходзіць зь вялікім спазьненьнем і тым самым траціць на сваёй актуальнасьці. Таму некаторыя беларускія асяродкі ў Аўстраліі й Ангельшчыне пастараліся атрымліваць „Беларуса" лётніцкай поштай, рэкампэнсуючы збольшаныя кошты перасылкі дадатковымі даплатамі, і атрымліваюць газэту раней, чымся некаторыя беларускія асяродкі ў ЗША. Калі высылаць газэту ня індывідуальна кажнаму падпішчыку, а гуртова на адзін адрыс, тады гэтая даплата за лётніцкую пошту не такая ўжо вялікая. Таму мы моцна радзім усім нашым заакіянскім асяродкам выпісваць „Беларуса" толькі лётніцкай поштай.

**Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"**

### НА СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ Ў БІРМІНГАМЕ

На 53-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня 25 лістапада летась група Беларусаў у Бірмінгаме (сярэдняя Ангельшчына) сабралася на Багаслужбу, якую адправіў а. Янка Пякарскі. У сваім казаньні ён падаў прычыны, што прывялі да збройнага выступленьня ў няроўным змаганьні, каб жыла Бацькаўшчына. Пасьля Багаслужбы а. Янка Пякарскі адслужыў Паніхіду па загінулых змагарох за незалежнасьць Беларусі.

**Прысутны**

# СПАТКАНЬНІ, ГУТАРКІ, ВЫСНОВЫ...

Апошнімі гадамі ў ходзе маёй працы мне часта даводзіцца спатыкацца зь Беларусамі з БССР і зь іншых савецкіх рэспублікаў. Найчасьцей гэта прадстаўнікі савецкіх гандлёвых установаў, студэнты, паасобныя турыстыя й групы. Бадай штодня я спатыкаюся таксама й з амэрыканскімі турыстымі беларускага й нябеларускага паходжаньня, якія нядаўна наведалі Беларусь.

У гутарцы з гэтымі людзьмі даведваюся шмат новага, пераважна аднак нязначных фактаў і дэталяў. Сутнасьць савецкая, не зважаючы на гады, застаецца бязьменна старая, добра памятная з жыцьця ў Савецкім Саюзе.

Аналізуючы й абагульняючы гэтыя спатканьні, мне прыйшла думка падзяліцца ўражаньнямі з чытачамі ды, магчыма, пачуць уражаньні іншых, хто мае гэткае-ж дасьветчаньне. Дык цяпер пра спатканьні.

Асобную, хоць лікава й нязначную катэгорыю складаюць турыстыя Беларусы ў савецкіх турыстычных групах. Пры першым-жа знаёмстве з савецкай турыстычнай групай, ейны кіраўнік козырам абвяшчае, што й сярод іх ёсьць Беларусы. Аднак, ня ведаю чаму, у савецкіх турыстычных групах Беларусы найчасьцей бываюць ня з БССР, а зь іншых частак Савецкага Саюзу й пабеларуску, з малымі выняткамі, не гавораць. На маё, натуральна, зьдзіўленае пытаньне — чаму не гаворыце пасвойму? — кіраўнік групы выходзіць з палажэньня пры дапамозе формулы: руская мова сталася роднай для ўсіх народаў Савецкага Саюзу. Праўда, адзін раз, калі кіраўнік групы стаяў воддаль, я ад Беларуса з Ташкенту атрымаў адказ: А дзе-ж мне было вучыцца беларускай мовы, калі, прыехаўшы ў 1933 годзе ў Ташкент, маці мне сказала, што калі хочаш, каб тваю маму не арыштавалі, то гавары толькі паруску. Турыстыя Беларусы ня з БССР уладаюць беларускай мовай у тых выпадках, калі ў іх яшчэ ёсьць сям'я ў БССР.

З гэтай групай турыстых гутарка, звычайна, бывае вельмі афіцыйная прыблізна ў гэткім пляне: у Савецкім Саюзе ўсё ёсьць, усё зьмянілася, мы пераганяем Амэрыку. Беларусы высака стаяць у спартовых алімпіядах, менскі трактарны й аўтамабільны ведамыя ўсяму сьвету, і г. д.

Праўда, гаворачы пра Беларусь. яны ёю ганарацца, аднак ведаў пра Беларусь ня маюць бадайшто ніякіх. На мае-ж пытаньні, чаму вы ня жывіцё ў Беларусі, звычайна чуліся гэткія адказы: усёроўна дзе працаваць, бацькі выехалі, выехаў маладым на працу й застаўся, і г. д. За мінулыя пяць год давялося мне спаткацца зь Беларусамі з Ташкенту, Горкага, Іркуцка, з Каўказу, Вяткі, Ленінграду й Украіны. Дарэчы, турысты Беларус з Украіны гутарыў пабеларуску й сказаў мне, што ў горад, дзе ён жыве, пасьля вайны прывезьлі ў капальні каля 200-300 беларускіх хлапцоў, былых сяброў СБМ, якія па адбыцьці „срокаў" 10-15 год у бальшыні засталіся ў тых самых капальнях.

Бывала, у мяне ствралася перакананьне, што па Амэрыцы падарожнічаюць пераважна Расейцы, турыстых не Расейцаў вельмі мала. Іншы склад савецкіх турыстых у музулманскія краі. Туды едуць бадай вылучна турыстыя зь сярэдняазіяцкіх і каўказкіх рэспублікаў. Але гэта іншая тэма.

Другая катэгорыя Беларусаў-турыстых — гэта студэнты, дэлегаты навуковых зьездаў, канфэрэнцыяў, палітычных кангрэсаў, асамблеяў Задзіночаных Нацыяў. У дадатак да афіцыйнае праграмы іхнага тут побыту, гэтыя людзі жадаюць яшчэ й нешта пабачыць. Звычайна, гэта групкі па два-тры чалавекі, абавязкова ў таварыстве прадстаўніка савецкае замежнае ўстановы, найчасьцей АМТОРГУ ці савецкай місіі Задзіночаных Нацыяў. Гэты праваднік нядрэнна гутарыць паангельску, тое-сёе ведае пра Амэрыку й заўсёды рэкамэндуе сябе, што „піша доктарскую (абавязкова доктарскую) працу". Праваднік, як правіла, Расеец, хоць часам зь Беларусі, зь Менску. У выпадку-ж, калі гэткі праваднік і ня рэкамэндуе сябе пры спатканьні, яго можна пазнаць па пытаньнях. Беларусы турыстыя цікавяцца ўсім: жыцьцём наведанага імі краю, навукай, цэнамі. Накіраванасьць пытаньняў праваднікa адна: хто вы, адкуль прыехалі, як даўно тут, ці жанаты, дзе працуеце, ці ёсьць хто на Беларусі й г. д. Вельмі часта праваднікі сыплюць прозьвішчамі й пытаюць, ці дзе-небудзь вы пра іх ня чулі.

З праваднікамі часта паўстаюць забаўныя сцэнкі. Аднойчы, я запытаўся ў Беларуса, навукоўца эканамістага, ці даводзілася яму чытаць „Ніву" і „Голас Радзімы"? Ён адказаў, што гэткіх назоваў нідзе ня бачыў. Праваднік-жа быў зь Менску — адразу-ж запярэчыў і сказаў літаральна, што „Неву" і „Голос Родины" можна купіць у кіёсках і ў Маскве і ў Менску.

Пры сустрэчах з гэткімі групамі часамі ўдаецца ўлучыць мамэнт і пагутарыць зь Беларусам пабеларуску. Пытаньні — адказы звычайна ідуць з абодвых бакоў: Іх цікавіць ня толькі Амэрыка, а й беларуская літаратура за мяжой, ці ёсьць беларускія крамы, радыяпраграмы і інш. Найчасьцей яны нічога ня ведаюць пра існаваньне арганізаванага беларускага жыцьця. а даведаўшыся, ім цікавяцца асабліва. Бадай нязьменна пытаюцца, на якой мове служаць у беларускіх цэрквах і ці можна было-б туды трапіць. Амаль ніколі яны ня выказваюць ніякіх сваіх высноваў, але й не пярэчаць, а толькі слухаюць. Ствараецца ўражаньне, што гэтае іхнае зацікаўленьне шчырае. Аднак вельмі рэдка даводзілася чуць шчырыя адказы на мае пытаньні: а як стаіць беларускае культурнае жыцьцё ў БССР? Чаму там не хапае беларускіх падручнікаў, чаму беларускія школы замяняюцца расейскімі, чаму фаварызуецца ўсё расейскае і г. д? Найбольш асьцярожныя наагул не жадаюць гутарыць на падобныя тэмы, аднак бываюць і гэткія, што шчыра прызнаюцца: ды дзе там пярэчыць усяму гэтаму, калі адзінае, чаго мы хочам — гэта каб ня вывезьлі нас зь Беларусі.

Усе турыстыя Беларусы бязумоўна ганарацца Беларусяй, хоць стандарты гонару нашыя розныя. Калі я летась тром турыстым з БССР задаў пытаньне, чаму ўсе яны аб'ектам гонару ўважаюць „Сьвіслач у граніце", Заслонава, Брэсцкую крэпасьць ды нейкі салдацкі помнік Купалу, а ня чыста беларускія культурныя здабыткі, дык студэнт з Гомеля мне па шчырасьці адказаў: А што іншага мы стварылі?

Найбольш колькаснай групай турыстых — турыстыя амэрыканскія, што наведалі БССР. Пераважна гэта Амэрыканцы беларускага паходжаньня, у бальшыні што прыехалі ў Амэрыку перад Першай сусьветнай вайной, а ў меншыні імігранты пасьля Другое сусьветнае вайны. Турыстыя гэтае першае катэгорыі — людзі старыя, найчасьцей езьдзяць у БССР зарганізаванымі групамі. Асноўнае іхнае зацікаўленьне — ад-

